Народ бароніць свае законныя правы, сваю годнасць!

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою.*
***Якуб КОЛАС***

**№ 68 (4526)**

28 жніўня 2020 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля



SOS!

# Чорная ноч не павінна апусціцца над Беларуссю

Чаму гэтыя жудасныя словы вынесены ў загаловак? Таму, што ў краіне сапраўды склалася катастрафічная сітуацыя. І справакавалі яе ўлады, якія пайшлі на нечуваныя фальсіфікацыі вынікаў волевыяўлення беларускага народа падчас прэзідэнцкіх выбараў.

"Народная Воля" хоча данесці да шырокай грамадскасці **ПРАЎДУ**, расказваючы пра тое, што адбываецца не толькі ў нашай сталіцы, але і ў іншых гарадах і рэгіёнах краіны. На жаль, вось ужо які дзень улады блакіруюць выхад газеты, адмаўляючы ў друкарскіх паслугах, у распаўсюджванні праз шапікі і паштовыя аддзяленні.

Калі блакада будзе працягвацца, выйсце адно: чытайце матэрыялы газеты на нашым сайце **nv-online.info**. Заходзьце ў раздзел "Архіў газеты" – там выкладваюцца ў фармаце PDF свежыя нумары, якія мы вымушаны тыражаваць пад Масквой.

Можна набываць газету "Народная Воля" таксама ў рэдакцыйным офісе па адрасе: Мінск, вул.Энгельса, 34А.

У гэты надзвычай цяжкі час мы разлічваем на дапамогу валанцёраў.

Божа, зрабі ўсё, каб чорная ноч не апусцілася над Беларуссю!

**«Народная Воля» – з народам!**

АКТУАЛЬНО

# Обращение Координационного совета к госслужащим

Наша страна оказалась в очень серьезном политическом кризисе. Это нельзя отрицать. Этот кризис, если не делать попыток его разрешения, никуда не денется ни завтра, ни послезавтра. Он приобретет еще более острые формы. Страна будет втянута в затяжной конфликт с тяжелыми экономическими, социальными и психологическими последствиями.

Базовая причина кризиса – в грубом игнорировании двух важнейших ценностей белорусского народа: стремления к правде и стремления к справедливости.

Прошедшие 9 августа президентские выборы сопровождались массовыми фальсификациями. Эти фальсификации зафиксированы. Большая часть общества почувствовала себя обманутой – с их голосом могут не считаться, официальные результаты выборов могут не отражать реальную волю народа. Люди столкнулись с неправдой. Это глубоко возмутило их.

А после этого произошли многочисленные акты чудовищной несправедливости. Когда по отношению к сотням мирных граждан, выразившим несогласие с официальными результатами выборов, была применена непропорциональная сила. Это привело к избиениям, истязанием и грубому унижению человеческого достоинства. К тяжелым ранениям и смертям. Можно со всей ответственностью констатировать, что так на белорусской земле не обращались с людьми со времен Великой Отечественной войны, нацистской оккупации. И крайне прискорбно, что до сих пор никто не понес за это ответственность. А свидетельств жестокого обращения с каждым днем появляется все больше и больше. Это несправедливость, которая никак не может быть забыта.

Мы все хотим жить в развивающейся, сильной, независимой стране. Но пока мы на своей земле не восстановим правду, справедливость, законность, мы не сможем нормально развиваться дальше.

При этом ни члены Координационного совета и никто из здравомыслящих членов общества не хочет эскалации противостояния. Политический кризис должен решаться мирным и цивилизованным путем. При этом мы видим, что самые высокопоставленные чиновники в нашей стране вместо диалога и совместной выработки сценариев будущего продолжают решать все накопившиеся проблемы «кровопусканием», как точно выразился бывший главный редактор газеты «Советская Белоруссия» Павел Якубович. В ход снова идут запугивания, давление, уголовные дела.

Но для всех думающих людей, в том числе и в государственных органах, сегодня уже не может не быть очевидным: силовым путем общество не придет к консолидации, раскол только усилится. Это будет иметь и тяжелые экономические последствия. Уже сейчас многие IT-компании и компании из других сфер рассматривают вопрос переноса бизнеса и рабочих мест в другие страны. Желание инвесторов вкладывать в Беларусь резко снизилось. Без соблюдения норм права в стране и без внутренней стабильности оно не вернется. Глядя на происходящее, серьезно задумывается об эмиграции молодежь. В условиях ухудшения экономической ситуации нас ждет и рост трудовой миграции: кто-то уедет в страны ЕС, кто-то – на работу в Россию.

Как уже признал министр иностранных дел Владимир Макей, страна отброшена в своем развитии на много лет назад.

Если мы не признаем серьезный кризис и не будем решать его путем мирного диалога, мы можем еще глубже скатиться в пропасть.

Как на эту ситуацию можете повлиять вы – люди в государственных органах, люди, призванные служить Беларуси и ее народу?

Во-первых, можно выразить свою позицию по поводу происходящего в стране. Сейчас это важно. Для себя, для общества, для будущего, для истории.

Во-вторых, можно предпринять усилия по налаживанию диалога с обществом. Еще раз подчеркнем: отрицание проблем или исключительно силовые методы их решения не приведут нашу страну ни к чему хорошему. Мы должны слышать и уважать друг друга. И решать конфликты на базе наших важнейших ценностей – правды, справедливости и законности, равенства перед законом всех, в том числе власть имущих.

В-третьих, важно понимать, что умные, честные, порядочные профессионалы в государственных органах буду востребованы всегда. Те, кто совершил серьезные преступления против своего народа, конечно же, должны понести ответственность. Но никакой травли остальных чиновников, правоохранителей за то, что они находились на госслужбе в последние годы, мы считаем, быть не должно. Нам всем важно консолидироваться.

История дает нам шанс навсегда оставить в прошлом политику преследования оппонентов и постоянного поиска врагов внутри и снаружи нашей мирной страны, стать единой нацией. Мы обязаны им воспользоваться, если мы действительно хотим сохранить страну, хотим развития и независимости. И сейчас будущее действительно зависит от поступков каждого из нас.

РУБАМ!

# З кім сабраўся ваяваць Генштаб?



Днямі на аўтастрадзе М1 (Брэст–Масква) я назіраў даўжэзную, да сотні машын, вайсковую аўтакалону, якая рухалася ў бок Мінска. Бэтээры (іх было найбольш), грузавікі з салдатамі, нават палявыя кухні. Наяўнасць апошніх сведчыць, што вайсковая частка пакінула месца сталай дыслакацыі надоўга.

Што здарылася? Беларускую сталіцу захапілі чужаземцы, і яе трэба вызваляць? Над Мінскам крыляе на парашутах перакінутая з захаду дывізія НАТА? Ужо прыляцелі на верталётах узброеныя да зубоў "ветлівыя чалавечкі" з усходу? Ды не, гарачыя галовы ў беларускім Міністэрстве абароны, пабачыўшы, як іхні галоўнакамандуючы бегае з аўтаматам каля Палаца Незалежнасці, вырашылі, што пара пагуляць у вайнушку, і адпаведныя загады пайшлі ў гарнізоны.

Праўда, ёсць адна праблема. Адсутнічае вораг. Няма яго, знешняга агрэсара, хоць у сто бінокляў прыглядайся.

І тады Генштаб беларускай арміі ворагам прызначыў... уласны народ, які вось ужо два тыдні выходзіць на шматтысячныя шэсці і патрабуе новых і свабодных выбараў. Але і тут закавыка: народ не штурмуе ўрадавыя будынкі, не закідвае камянямі Міністэрства абароны, не перакульвае на вуліцах аўтазакі, куды апрычнікі ў чорных масках закідваюць прахожых. Увогуле нічога не штурмуе, нікога не пабівае камянямі, нічога не перакульвае. Усе шэсці носяць выключна мірны характар.

Але на тое ён і Генштаб, каб прыдумваць ваенныя аперацыі. Яго кіраўнік генерал Аляксандр Вальфовіч прыдумаў, *што* будзе абараняць беларускае войска, выступіўшы з наступнай заявай: *"Мы не дадим осквернять наши памятники, разрушать систему образования, запугивать наших граждан..."*

У недасведчанага чытача пасля генеральскай заявы можа скласціся ўражанне, што ў Мінску пратэстоўцы ўжо звалакаюць з п'едэсталаў помнікі, рабуюць музеі і апаганьваюць мемарыялы героям Вялікай Айчыннай вайны.

Але ўсё гэта мае месца толькі ў галаве лукашэнкаўскага генерала. Паколькі ўсе помнікі-святыні – на сваіх месцах, ніхто ў іх і каменьчыкам не кінуў. І не збіраецца кідаць. Дык ад каго Генштаб і падначаленая яму армія збіраецца бараніць тыя помнікі? І хто насамрэч запалохвае грамадзян?

Генштабу хіба давядзецца зрабіць, як на вучэннях, раздзяліўшы салдат на "сваіх" і "чужых". Адны будуць нападаць і "апаганьваць", а другія – бараніць да апошняга (халастога?) патрона. Уявіце сабе акапаныя супрацьтанкавымі равамі і аплеценыя калючым дротам помнікі Скарыну ці Якубу Коласу на праспекце Незалежнасці ці Музей гісторыі ВАВ на праспекце Пераможцаў (яго ўжо "закалючылі" ў два шэрагі спіралі Бруна). Генерал Вальфовіч дае адначасова дзве каманды: "На штурм!" і "Ні шагу назад!"...

Смешна? Але з узброенай арміяй так не жартуюць. Ды і Генштаб – не цырк, дзе клоўны весяляць публіку.

А з якога, прабачце, бадуна той жа генерал Вальфовіч сабраўся ўзяць пад сваю мілітарную апеку ўстановы адукацыі? Ён што, сабраўся ў кожную студэнцкую аўдыторыю паставіць па бэтээры? А ў двары кожнай школы ўкапаць па танку? І ўзяць на прыцэл усіх, хто адважыўся прайсці міма?

А можа, генерала занепакоіла, што адзін з навучэнцаў Ліцэя БДУ ўзяў у рукі баявы аўтамат? Дык гэтую зброю даў яму – няпоўналетняму! – бацька-галоўнакамандуючы...

Шаноўныя вайскоўцы, калі ласка, астыньце! Вас правакуюць, вас хочуць запляміць крывёй, як ужо заплямілі АМАП. Не ідзіце на вайну з уласным народам – гэта найгоршае, што можа здарыцца ў кар'еры вайскоўца.

Лепш ужо збівайце з баявых верталётаў надзіманыя шарыкі на мяжы, як гэта нядаўна мела месца на Ашмяншчыне. Клацаць зброяй перад мірна настроенымі суайчыннікамі, сярод якіх, я ўпэўнены, ёсць і вашы родныя, – прыкмета зусім не адвагі, а, наадварот, баязлівасці. А вы ж не бязродныя баязліўцы, гатовыя выканаць любы, нават злачынны, загад. Памятайце прысягу, не будзьце сабакамі на шворках, якіх крыважэрны гаспадар вырашыў нацкаваць на людзей.

Вы прысягалі не гаспадару, а народу.

**Міхась СКОБЛА.**

РЕАКЦИЯ

## Берлин не оставит без ответа репрессии против оппозиции в Беларуси

*Министр иностранных дел Германии **Хайко Маас** раскритиковал власти Беларуси за арест двух ведущих оппозиционеров.*

Маас назвал поведение власти в Минске «абсолютно неприемлемым» и заявил, что ЕС на это отреагирует.

*«Абсолютно недопустимо, что членов Координационного совета арестовывают, допрашивают и запугивают»*, – заявил Маас в Берлине.

Дипломат напомнил, что в четверг и пятницу в Берлине пройдет встреча министров иностранных дел ЕС, где будет обсуждаться ситуация в Беларуси.

*«Мы не оставим без ответа серьезные нарушения прав человека и основных демократических принципов»*, – предупредил он.

Как известно, ЕС уже решил ввести адресные санкции против виновных в фальсификациях выборов и жестоких репрессиях против демонстрантов. Сейчас в ЕС согласовывают детали санкционного списка.

25 августа стало известно об административном аресте на 10 суток двух членов созданного оппозицией Координационного совета.

Ранее в Конституционном суде Беларуси объявили, что оппозиционный Координационный совет является неконституционным.

РЭПРЭСІІ



# «Што ты бегаеш па заводзе, страйкі ладзіш?!»

*На «Гомсельмашы» за палітычныя погляды звольнілі маладога рабочага.*

21-гадовы гамяльчанін **Арцём Савіцкі** ніякі не Рабесп'ер і тым больш не Ігнат Грынявіцкі. Ён – звычайны электраманцёр ААТ "Гомсельмаш". 21 жніўня Арцёма звольнілі з прадпрыемства паводле пункта 6 артыкула 42 Працоўнага кодэкса – "за невыкананне працоўных абавязкаў без уважлівых прычын", да таго ж нібыта хлопец меў "нязнятае (непагашанае) дысцыплінарнае спагнанне".

### «Начальнік прафсаюза стаў першы крычаць на мяне»

"Мяне паклікалі, – расказвае Арцём, – на пасяджэнне прэзідыума прафкама "Гомсельмаша", і начальнік прафсаюза Швед, замест таго каб абараняць, першы стаў крычаць на мяне: "Што ты бегаеш па заводзе, інтэрв'ю нейкія раздаеш, страйкі ладзіш?! Гэта незаконна!" Я яму і кажу: "Вы ж нібыта мяне абараняць павінны, а не крычаць". Яны зачыталі нейкі акт правапарушэння аб тым, што я здымаў на тэлефон, як мяне зачынілі на замок у цэхавым памяшканні майстроў, а таксама калектыўную скаргу з тэлефоннай станцыі, дзе я нібыта не замяніў электралямпачкі, – і вырашылі даць згоду на маё звальненне".

Арцём дадае: перад пасяджэннем у яго забралі мабільнік, папярэдзілі, што пасяджэнне мусіць праходзіць без любой сотавай сувязі.

"Я сказаў, што не аддам тэлефон. Але калі і члены прэзідыума вылажылі на стол свае мабільнікі, я павёўся і паклаў свой. Іх тут жа вынеслі ў іншае памяшканне. Відаць, баяліся, каб я не запісаў усё, што адбывалася".

### Перастрэлі на паўдарозе

Гісторыя звальнення Арцёма Савіцкага з цэха электрасетак і падстанцый "Гомсельмаша" пачалася, бадай, у пазамінулую пятніцу, 14 жніўня. Малады электрык даведаўся, што за дзве гадзіны да заканчэння змены на транспартнай прахадной збіраюцца рабочыя, каб патрабаваць адстаўкі Аляксандра Лукашэнкі, вызвалення ўсіх затрыманых за акцыі пратэсту супраць агучаных Цэнтрвыбаркамам вынікаў галасавання, а таксама пакарання віноўнікаў гвалту над мірнымі жыхарамі.

"Мы ішлі да транспартнай прахадной разам з рабочымі корпуса зваркі і афарбоўкі. Разам было больш за трыццаць чалавек. Нас перастрэў генеральны дырэктар "Гомсельмаша" Аляксандр Новікаў са сваёй світай. Мы сказалі дырэктару, што будзем страйкаваць, бо хочам быць разам з народам, хочам заступіцца за пабітых, каб адчувалі, што яны не адны".

Паводле слоў рабочага, гендырэктар, яго намеснік па ідэалогіі і кадрах Аляксандр Канапацкі, прафсаюзны начальнік Іван Швед сталі казаць сельмашаўцам, што страйкаваць можна, калі маецца працоўная спрэчка з наймальнікам, а з палітычных прычын страйк незаконны. Ну і прапанавалі агучыць нашы патрабаванні на месцы, нікуды не рухаючыся. Новікаў, праўда, адразу паабяцаў накіраваць паперу ў ізалятар, каб адпусцілі працаўнікоў "Гомсельмаша". Гаварылі пра дзясятак затрыманых. З цэха электрасетак і падстанцый у ізалятары апынуліся двое.

### Інтэрв'ю перад мостам

Савіцкі, пабачыўшы, што завязваецца дыскусія і кіраўніцтва наўрад ці адпусціць электразваршчыкаў, стаў бачком выбірацца з кампаніі, каб дайсці да прахадной. І дайшоў. Расказаў гараджанам, якія ішлі праз пешаходны мост, як кіраўнікі аб'яднання перастрэлі рабочых, што кінулі працу, на паўшляху да прахадной. Мінакі пляскалі ў ладкі, знялі Арцёма на відэа і выклалі ў інтэрнэт. Але як толькі "папарацы" сышлі, на хлопца наляцеў начальнік аховы: "Ты што тут робіш? Цэх пакінуў? Давай у цэх – працоўны дзень яшчэ!"

Такога націску з боку ахоўніка малады рабочы ніяк не чакаў і крыху сумеўся – ад электрыкаў да прахадной ён сапраўды дабраўся адзін. Яшчэ пару чалавек падышлі з іншых падраздзяленняў, якія паведамілі, што і па другі бок завода людзей таксама затрымалі цэхавыя начальнікі, каб не гуртаваліся каля прахадной.

Арцём вырашыў вярнуцца на сваё працоўнае месца.

"Цэхавае начальства, – кажа Савіцкі, – ужо ведала пра маё "сольнае выступленне" каля транспартнай прахадной, што побач з пешаходным мостам. Начальнік цэха Дзмітрый Язерскі стаў спачатку сараматіць: "Чаго ты ходзіш туды? Думаеш, там табе грошай з верталёта скінуць?" А потым ужо недвухсэнсоўна намякаў, што такія працаўнікі ні цэху, ні заводу не патрэбны. Язерскі нават не ведаў, як мяне завуць, бо загадаў майстру, паказваючы на мяне: "Гэтага з коскай нікуды не пускаць".

*(Заканчэнне на 2-й стар.)*

Народная Воля http://www.nv-online.info
28 ЖНІЎНЯ 2020 г.

СТОП-КАДР




*25 жніўня тысячы людзей у Мінску пад залевай святкавалі гадавіну аднаўлення Незалежнасці.*

НЕЛЬЗЯ МОЛЧАТЬ!

# Обращение Белорусской партии левых «Справедливый мир»

*к органам государственной власти, политическим партиям, общественным объединениям, гражданам Российской Федерации*

В результате грубого нарушения действующей властью Конституции, законов и международных обязательств Беларуси в области соблюдения основных гражданских и политических прав, а также объективного и закономерного в этих условиях общественного протеста, в республике развивается острый политический кризис, к которому приковано внимание всего мира.

Детонатором массового протеста стали откровенно наглые действия исполнительной вертикали власти по фальсификации итогов президентских выборов и последовавший за этим террор со стороны силовых структур против народа Беларуси. В итоге как минимум три человека были убиты, сотни покалечены и около семи тысяч задержаны.

Ставшие известными общественности многочисленные факты зверских избиений и пыток, которым подверглись граждане не только на улицах городов, но и в местах изоляции задержанных, по своей циничности и жестокости не уступают преступлениям, которые творили фашисты во время Великой Отечественной войны.

В результате народный протест охватил всю страну. К нему присоединились все слои населения: рабочие, крестьяне, инженеры, учителя, врачи, творческая интеллигенция, спортсмены, студенты, домохозяйки. Нарастает стачечное движение в трудовых коллективах.

Главные требования протестующих:

– отставка А.Г.Лукашенко с поста Президента Республики Беларусь и проведение новых выборов главы государства;

– освобождение всех политических заключенных, а также граждан, задержанных за участие в протестных акциях;

– проведение тщательного расследования каждого случая избиения, пыток, издевательств в отношении граждан и привлечения всех виновных в незаконных действиях к ответственности.

Несмотря на то, что массовые протесты в Беларуси имеют внутренние причины, из уст некоторых российских политиков, а также в ряде российских СМИ звучит крайне тенденциозная трактовка белорусских событий как организуемых извне и угрожающих белорусско-российским отношениям. Но объективно это не так. Народный протест в Беларуси не направлен против братских отношений между нашими народами и государствами. Протестующие не выступают с антироссийскими лозунгами. Более того, большинство граждан Беларуси являются сторонниками сохранения и развития Союзного государства Беларуси и России.

Зато именно А.Г.Лукашенко уже длительное время наносит ощутимый урон белорусско-российским отношениям. Достаточно вспомнить его антироссийскую предвыборную риторику, обвинения в попытках раскачать ситуацию в Республике Беларусь, вмешаться во внутренние дела страны, грубый и систематический шантаж в адрес России.

В условиях, когда абсолютное большинство белорусского народа не желает дальнейшего пребывания А.Г.Лукашенко на посту Президента Республики Беларусь, заявления некоторых российских политических деятелей, а также политических комментаторов и аналитиков в поддержку созданного им антинародного режима и одновременно тенденциозные и оскорбительные оценки народного протеста являются подарком для тех внешних и внутренних сил, которые давно стремятся рассорить наши народы, похоронить Союзное государство и оторвать Беларусь от России. Эти безответственные действия наряду со спекуляцией самого А.Г.Лукашенко, заявляющего о полной и безоговорочной поддержке его со стороны России, наносят колоссальный ущерб будущему российско-белорусских отношений, дают прозападной правонационалистической оппозиции легкую возможность внести в народный протест антироссийские настроения.

В этой ситуации Белорусская партия левых «Справедливый мир» обращается к органам государственной власти, политическим партиям, общественным объединениям, гражданам Российской Федерации с призывом:

– поддержать белорусский народ в его требованиях отставки А.Г.Лукашенко, использующего для удержания власти фашистские методы;

– осудить действия белорусских властей, допускающих грубое насилие в отношении участников мирных протестов и просто граждан;

– потребовать выпустить всех задержанных и политических заключенных и прекратить преследования граждан по политическим мотивам;

– содействовать консолидации усилий граждан, политических и общественных организаций двух стран, выступающих за развитие братских отношений между народами и за Союзное государство Беларуси и России.

ОСТРЫЙ ВОПРОС



Татьяна НОВИКОВА

# С кем вести переговоры?

### Об авторе

Публицист, журналист, редактор, математик и экономист по базовому образованию. С 1993 года пишет на экономические и экологические темы, освещает вопросы культуры и политики в различных изданиях Беларуси, Украины, России, США.

## Первые шаги

В Беларуси за последние 26 лет было создано немало комитетов, и многие из них преследовали ту же цель, которую теперь ставит перед собой Координационный совет. Ни один их них не вывел на улицы такого количества людей. Но признаем, что образование КС из более чем 60 человек – это еще даже не полпути к заявленной цели.

Штабу Тихановской и теперь Координационному совету как преемнику симпатизирует большая часть белорусского общества. Очевидно желание людей жить в здоровой и мирной стране, и они хотят прийти к этой цели ненасильственным путем. Эту рамку объединенному штабу удавалось удерживать, на этой позиции стоит и КС.

Создание Координационного совета как органа, консолидирующего общество, выглядит логично, поскольку только представительное собрание может апеллировать к народу, а если это собрание находится под эгидой штаба кандидата в президенты, с большой долей вероятности победившей в выборах, то это уверенная политическая позиция.

Однако открыто еще слишком много вопросов. Один из главных – это субъектность переговорного процесса.

## Кто может быть за «круглым столом»?

С одной стороны, избранный президиум КС (все семь человек?), а с другой? Если не с АГЛ, то с кем вести переговоры?

Стоит отметить, что, несмотря на то, что власть находится в прежних руках, а политзаключенные – в застенках, линия мечтателей (как назвала себя и своих соратников Колесникова) пока дает беспрецедентные результаты – масштаб народного подъема по всей стране впечатляет! Это невиданное для Беларуси народное движение.

Итак, на одной чаше весов – мирные люди, на другой – субъект, которого уже не смущают открытые призывы народа «Уходи!», а применение силы против безоружных и последующий газлайтинг были всегда его стилем.

Можно ли вести с ним переговоры, и если да, то о чем? Ведь он уже заявил: «*Новые выборы возможны, только если вы меня убьете!*» Но мирные люди не хотят никого убивать, это противоречит их принципам. Нормальная же логика, оперирующая категориями «интересы страны», «экономика» и так далее, в этом случае также не работает.

Субъект, построивший свою вертикаль на феодальный манер, вряд ли способен мыслить понятиями более поздних исторических формаций – мотивации, интереса, дивиденда и так далее.

Не стоит слишком ударяться в рассуждения, чтобы понять, что переговоры с известным нам субъектом о заявленном предмете вряд ли возможны. И если даже представить себе невообразимое, что каким-то потусторонним силам удалось убедить его в необходимости переговоров, то нельзя надеяться на то, что он выполнит свои обязательства.

Если же исполнять и гарантировать обязательства будут третьи лица, то известный нам субъект и вовсе выпадает из логики переговоров.

У переговорщиков должен быть один и тот же не только предмет, но и язык, иначе они не смогут договориться и выполнить своих обязательств. Пока же стороны говорят на разных языках, мыслят в разных плоскостях.

Апелляции к закону уместны, но законодательство репрессивно, состоит из коллизий, в его рамках трансфер вряд ли возможен. Государство определенно нуждается в переучреждении.

Еще пару дней назад в воздухе витало ощущение, что да, как минимум на локальном, местном, уровне переговоры возможны. Те или иные субъекты управления показали, что переход на сторону добра возможен. Но этот процесс должен быть одновременным и повсеместным, именно тогда он заметен и порождает не только кризис прежней власти, но и конкретный выход из него.

Единение народа, двух его сторон, пока не состоялось. Поздно ли его вести? Кажется, не совсем. Об этом говорит одна интересная деталь.

На днях вертикаль начала организовывать провластные митинги и мобилизовать свой актив. Вроде бы это свидетельствует о том, что она успела оправиться, пошла в наступление и ей есть чем идти. Но это всего лишь иллюзия, которая разбивается в прах фактами захвата силовиками Купаловского театра, давления на рабочих, чтобы они вернулись на заводы, и так далее.

Долго такая «мобилизация» не продержится. У нее две цели – перенос ответственности за происходящее с верхнего этажа вертикали на нижний и репрессии.

На локальном уровне репрессии не совсем эффективны, даже если к каждому директору завода или главе администрации приставить отдельную бригаду церберов. На штыках долго усидеть не удастся. Контроль такого рода возможен в рамках отдельных районов, но нереалистичен и непомерно дорог в масштабе отдельной страны.

Власти уже дают сигнал, что готовы на некие переговоры с людьми или разговоры на непонятные темы, при этом как бы не собираясь уходить с прежних позиций.

И здесь наступает интересный момент, когда та самая децентрализация, то самое горизонтальное движение и отвечает на вопрос о субъектности переговоров. Это локальные и отраслевые субъекты управления. При условии перетягивания их на сторону добра возможно было бы объединение здоровых и мирных сил, единовременное и массовое.

Это уже можно было бы называть неким двоевластием и как угодно, например, переходным управлением, поскольку один из органов, субъектов с этой стороны заявлен и почти оформлен – это КС.

Сложность ситуации состоит в том, чтобы стороны удержались вокруг актуальной политической повестки. Это не должно быть про зарплаты и благоустройство территорий.

## О формах

Формы – это вопрос тактики, и они могут варьироваться, хотя многое неясно.

Например, не понятна организация забастовок на предприятии, где давно нет реальных профсоюзов и рабочие разрозненны.

Эффективны ли забастовки итальянские, если заводы работают на склад, а предприятия убыточны и искусственно поддерживаются государством?

Эффективно ли саботирование приказов АГЛ, если каждый второй его приказ саботируется на протяжении десятилетий – обосранные коровы и скандальные деревообрабатывающие предприятия тому пример.

Возможно, эффективны. Но это должно быть опять же что-то одно, какое-то одно действие в один момент времени.

Формы – это вопрос тактики, они могут генерироваться на ходу. Но процесс в целом лучше всего описывается аллегорией. Пока вертикаль действует против ветра, она теряет силы, пока мирные люди двигаются в мейнстриме и охватывают все новых и новых сторонников, они эти силы приобретают.

Конечно, Координационный совет, как и миллион белорусских граждан, можно погрузить в железнодорожные вагоны и увезти из страны. Но только это уже не решит задачи сохранения власти, а вернуться в исходное состояние ей не удастся. И в этом случае, сталинского или полпотовского сценария, Беларусь опять же рискует потерять суверенитет.

РЭПРЭСІІ

# «Што ты бегаеш па заводзе, страйкі ладзіш?!»

*(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)*

## Пад замком

17 жніўня начальнік цэха Язерскі сустрэў электраманцёра Савіцкага на прахадной, каб суправадзіць да цэха. Па дарозе спрабаваў правесці з маладзёнам "прафілактычную гутарку".

"Пачаў казаць, як добра жыць у краіне, якую пабудаваў прэзідэнт, настойліва раіў не рабіць глупстваў, забараніў куды-небудзь хадзіць. А куды – нібыта я і сам ведаю і ведаю, чым гэта скончыцца", – згадвае Арцём.

Аб 11-й гадзіне, наколькі было вядома, рабочыя зноў меліся сабрацца гуртам. Начальнік цэха прыйшоў і сядзеў некаторы час каля працоўнага месца Савіцкага, каб той нікуды не адлучаўся. Гэта адбылося ў невялікім памяшканні ў цэху, дзе электрыкі збіраюцца разам з майстрам, каб абгаварыць вытворчыя заданні.

Арцём працягвае: "Сяджу я ў гэтым памяшканні і чую "чык-чык" у дзвярах. Я за ручку – о, думаю, нічога сабе прыкол: замкнулі дзверы! Ключоў у мяне няма, каб знутры адамкнуць. Хвілін дваццаць чакаю – нідзе нікога. Здымаю відэа і кідаю ў інтэрнэт – яно хутка разлятаецца. Дзесьці праз гадзіну прыходзіць Язерскі, адмыкае мяне і абураецца: "Што ты тут наздымаў? Пайшлі!" Завёў мяне ў табельную – там прысутнічалі табельшчыца і намеснік начальніка цэха Артур Рыжэнка. Усе гуртам сталі на мяне проста гарлаць, абражаць: "Дурань, што ты здымаеш, правакацыі ўчыняеш?! Сам зачыніўся – і здымаеш!" Я асабліва не агрызаўся, сказаў толькі: зняў тое, што было.

Начальнік цэха Язерскі стаў мяне сам на відэа здымаць і казаць, што таксама выкладзе гэта ў навінах: "Ты нам такі не патрэбны, мы цябе звольнім". Потым Язерскі выклікаў да сябе "на кавёр" і стаў ужо канкрэтна прэсаваць: "Пішы заяву на звальненне або будзеш звольнены праз вымовы. Кантракт я табе ўсё адно не падоўжу".

Прыйшлі ахоўнікі, склалі акт, што Арцём у працоўны час здымаў відэа на свой прыватны тэлефон на тэрыторыі рэжымнага аб'екта. Копію гэтага акта хлопцу не далі. Не ўзялі пад увагу і яго тлумачэнні, што відэа зняў у адказ на незаконныя дзеянні адміністрацыі цэха.

На наступны дзень, паводле слоў маладога рабочага, за яго дзеяннямі ўжо сачылі канкрэтна. Пільнавалі літаральна на кожным кроку і паведамлялі яго цэхаваму кіраўніцтву.

На месцы меркаванага збору страйкоўцаў стаяў намеснік генеральнага дырэктара Канапацкі з яшчэ нейкімі асобамі. І як толькі электрыкі прайшлі на аб'ект паўз ідэалагічнае начальства, зноў Дзмітрый Язерскі патэлефанаваў Савіцкаму з прэтэнзіямі: "Дзе ты ўжо там ходзіш – прыгодаў сабе шукаеш?"

"Ішоў я на АТС, дзе трэба было замяніць электралямпачкі. І тут я нечакана сустрэўся з жорсткім наездам. Там былі дзве жанчыны і мужчына. Хто яны такія, не ведаю – пэўна, працаўнікі тэлефоннай станцыі. Спыталі маё прозвішча, я адказаў: Савіцкі. Вось тут і пачалося: "Ты што – дэбіл? Малалетні ўрод, ты нас правакуеш, на страйкі агітуеш!" Паляцелі на мой адрас абразы, нецэнзурная лаянка. Я павінен быў маўчаць, але не стрымаўся, адказаў адной даме, што ёй даўно на пенсію пара – дарогу трэба маладым даваць", – расказвае Арцём.

## Калектыўнае «выхаванне»

У выніку трыа з ведамаснай тэлефоннай станцыі напісала на электрыка скаргу, што ён нібыта вёў у іх агітацыю, схіляў да страйку, а калі яны адмовіліся, то Савіцкі накінуўся на іх, лаяўся, абражаў і наогул неадэкватна сябе паводзіў. Прычым падпісалі гэтую скаргу ажно 12 чалавек, хоць прысутнічалі пры інцыдэнце трое. На дадатак заявілі, што электралямпачкі рабочы не замяніў, хоць спачатку электрыкі запісалі, якія лямпачкі патрэбны, каб не пагаршаць якасць асвятлення.

На падставе згаданай скаргі на прэзідыуме прафкама Арцёму канкрэтна паставілі ў віну пункт 6 артыкула 42 Працоўнага кодэкса – невыкананне без уважлівых прычын працоўных абавязкаў. На гэтай падставе і звольнілі з працы 21 жніўня.

## З фармулёўкай звальнення не згодны

Арцём нарадзіўся і вырас у Гомелі. Атрымаў базавую адукацыю ў 57-й школе, што ў мікрараёне "Гомсельмаш". Пасля скончыў каледж машынабудавання, што таксама побач з заводам. У 2017 годзе паступіў на завод электрыкам 3-га разраду. Кажа, што атрымліваў "чыстымі" 370–420 рублёў. Нядаўна хлопцу прысвоілі 4-ы разрад, але заробку па-новаму ён так і атрымаў.

"Я не трымаюся за "Гомсельмаш", бо ўмовы працы і аплата тут не з лепшых. Даводзіцца бегаць, шукаць тыя ж лямпачкі альбо аўтаматычныя выключальнікі для электрасетак. Не згодны я толькі з фармулёўкай звальнення. Таму праз праваабаронцаў звярнуўся ў суд, каб загад быў адменены. Звольнілі мяне за няўдалыя спробы ўдзельнічаць у страйку, якога па вялікаму рахунку не было", – кажа малады сяльмашавец Арцём Савіцкі.

***

У схожых абставінах апынуўся і яго аднагрупнік па каледжы электраманцёр **Яўген Астранок**, які таксама падтрымліваў намер страйкаваць у знак пратэсту супраць фальсіфікацыі вынікаў прэзідэнцкіх выбараў. Праўда, Яўген не ўпарціўся і напісаў заяву на звальненне па асабістым жаданні.

**Анатоль ГАТОЎЧЫЦ.**

АСОБА

# Барыс ХАМАЙДА:
# «Новых лідараў дасць Беларуская Плошча, але яе трэба рыхтаваць»

*У Віцебску два знакавыя месцы для сустрэч нацыянальна арыентаваных гараджан – каля Альгерда і каля Хамайды. Велічны помнік вялікаму князю Альгерду стаіць у цэнтры горада на ажыўленым скрыжаванні. І на суседняй вуліцы – грамадскі актывіст Барыс ХАМАЙДА пад бел-чырвона-белым парасонам, які праз доўгі час адваяваў сваё права стаяць тут і збіраць аднадумцаў у родным горадзе без прыніжальных заявак на пікет. Некалькі квадратных метраў ходніка можна сімвалічна назваць персанальнай Хамайдавай Плошчай, дзе вось ужо дваццаць тры гады віцябляне сустракаюцца, дыскутуюць, атрымліваюць незалежныя выданні…*

*Будучы ў Віцебску, я не мог не сустрэцца з легендарным чалавекам.*



**– Спадар Барыс, больш за два тыдні працягваюцца пратэсты – сотні тысяч людзей па ўсёй Беларусі выходзяць на вуліцы. Але жаданага выніку гэта пакуль не дало. Лукашэнка катэгарычна не хоча ісці на дыялог з пратэстоўцамі. Як вам бачыцца далейшае развіццё падзей?**

– Я перакананы, што хаджэнне па вуліцах нічога не дасць. Трэба рыхтаваць Беларускую Плошчу, сур'ёзна рыхтаваць. І адзіным патрабаваннем гэтай Плошчы мае быць вяртанне легітымнай Канстытуцыі 1994 года. Тады пачнецца раскол кіроўнай эліты, тады сілавікі пачнуць вагацца. І стаяць на Плошчы трэба будзе да канца – тыдзень, месяц, колькі спатрэбіцца. Стаяць, пакуль не будзе выканана галоўнае патрабаванне.

**– А з чаго вы ўзялі, што чыноўнікі і сілавікі раптам пяройдуць на бок пратэстоўцаў? За два тыдні перайшлі лічаныя, ды і то ніжэйшае звяно.**

– Тлумачу. Чыноўнікам, сілавікам і рэгіянальнай эліце патрэбна страхоўка. Сёння ў інтэрнэце іншы раз чытаем толькі адно: "Вось зменіцца ўлада – вам не пашанцуе". Слухайце, гэта не справа. Ва ўладных і праваахоўных структурах працуе да паўмільёна чалавек. З сем'ямі гэта значна больш. І што мы з гэтымі людзьмі збіраемся рабіць? А гэта таксама беларускі народ. Ім патрэбна даць шанец. І гэты шанец – Канстытуцыя. Калі яны ўбачаць, што ў краіну вяртаецца легітымная Канстытуцыя, то зразумеюць, што ў нас не будзе варфаламееўскай ночы, ночы доўгіх нажоў. Не будзе расправы. Усё будзе рабіцца толькі па законе.

І яшчэ адзін момант. Цяпер у нас усе лозунгі са знакам "супраць": "Не дыктатуры!", "Далоў!", "Сыходзь!". А тут будзе – "за": "За легітымную Канстытуцыю!". І калі свет убачыць, за ШТО мы змагаемся, мы будзем падтрыманы ўсім цывілізаваным светам. Абавязкова!

**– Дык цывілізаваны свет і так падтрымлівае перамены ў Беларусі, асабліва не ўчытваючыся ў тыя лозунгі. Ён у цэлым адэкватна рэагуе на карную аперацыю, якую праводзіць улада ў Беларусі супраць уласнага народа.**

– Не, паверце мне як юрысту. Захад памятае, што ў Беларусі ўжо дваццаць чатыры гады няма легітымнай канстытуцыі. Таму ніводныя так званыя выбары не прызнаюць. І гэтыя не прызнае. Усе выбары на аснове нелегітымнага заканадаўства будуць непрызнаныя. Не з-за таго, што Ярмошына не так галасы падлічыла… Прычына непрызнання – Канстытуцыя 1994 года. Вернем яе – і толькі тады правядзём нармальныя выбары.

**– А чаму ўлада пойдзе на саступкі мірнай Плошчы? Як бачым, яна заняла жорсткую пазіцыю, на Каардынацыйную раду заведзена крымінальная справа.**

– Павінны з'явіцца моцныя лідары. А даць іх можа толькі Плошча. Так, мірная. Не трэба захопліваць адміністрацыйныя будынкі. Вяртайце Канстытуцыю! І народ будзе стаяць, пакуль не вернем. І вернем! Паверце! Таму што кожную раніцу *ён* будзе падымацца з ложка і глядзець у акно – ці стаяць? А мы будзем стаяць. Так я адстаяў сваё права ў Віцебску. Мяне ж, як сабаку, цягалі праз дзень у пастарунак! Гэта ж на вачах у людзей было! Мяне цягалі гадамі. А я сабе сказаў: "Здохну, але буду выходзіць на гэта месца!" І сёння мяне ўлада ўжо не чапае. Калі гаворка ідзе пра захаванне незалежнай дзяржавы, упартасць – самае галоўнае! Інакш нічога не будзе.

**– У вашым самадзейным шапіку свежая прэса, нацыянальная сімволіка. А як часта вы распаўсюджваеце "Народную Волю"?**

– Я стаю ўжо дваццаць чацвёрты год, раней стараўся выходзіць амаль кожны дзень. Цяпер, з узростам, бывае, кепска сябе адчуваю, то дзень магу прапусціць. А так я штодзень, апрача суботы і нядзелі, стаяў каля гэтак званага Сінягa дома – у дождж, у снег, у спякоту. "Народную Волю" распаўсюджваў, калі "Белсаюздрук" адмаўляўся яе прадаваць. Я замаўляў газету па тэлефоне, і мне з Мінска перадавалі вялікі пачак. Я распаўсюджваў і грошы некалькі разоў адвозіў у рэдакцыю. А часцей проста так людзям раздаваў – як дабрачынныя выпускі. Цяпер у "Народнай Волі" зноў нібыта праблемы з распаўсюджваннем. Я гатоў…

**– Ад Віцебска зусім блізка да мяжы з Расіяй. І Лукашэнка ўжо заявіў, што Крэмль гатовы прыйсці яму на дапамогу. Як вы лічыце, збройнае ўмяшанне Расіі ў беларускі крызіс магчымае?**

– Не дай Бог, каб у Беларусі з'явіліся так званыя "ветлівыя чалавечкі". Тут мы павінны ўперціся. І прызапасіць "кактэйлі Молатава" для варожых танкаў. Нават у час эйфарыі мы павінны цвяроза думаць галавой. У Смаленску стаіць Кантэміраўская дывізія, ёй дзве гадзіны танкавага ходу да Віцебска. А віцебская дэсантная дывізія невядома для чаго перакінута ў Гродна. Нам трэба быць як ніколі пільнымі. І гатовымі за дзве гадзіны акапацца…

**– У Віцебску вас ужо ўспрымаюць як нешта непарушнае, нават сустрэчы прызначаюць "каля Хамайды". Колькі разоў вас на гэтым месцы затрымлівалі праваахоўнікі?**

– Ой, многа! Напачатку я падлічваў, а потым кінуў. Увогуле больш за 100 сутак адседзеў. А колькі штрафаў атрымаў!..

**– А хто вам дапамагаў іх сплачваць?**

– Ды не сплачваў я іх. Я ж афіцыйна нідзе не працаваў. Доўгія гады мы з маці жылі фактычна з лецішча. Ну і на яе пенсію.

**– А маці вам ніколі не казала: "Сынок, ну колькі можна змагацца, лепш пашукай працу"?**

– Маці, дзякуй ёй, мяне разумела. Канешне, я ў яе шмат здароўя адабраў… Калі мяне садзілі на чарговыя суткі, яна так перажывала!.. Пражыла 81 год, памерла пасля інсульту.

**– Вам 72 гады – даўно пенсійны ўзрост. Апошнім часам вас, здаецца, не штрафавалі. Дык вы пенсію ўрэшце аформілі?**

– У мяне 25 гадоў працоўнага стажу, з іх 15 – у юрыдычнай сферы, нават у аблвыканкаме працаваў. Калі мне споўнілася 60 гадоў, то на мне вісела шмат штрафаў, і я вырашыў не афармляць пенсію. Я вельмі не хацеў плаціць дзяржаве, бо ўсе тыя штрафы – незаконныя! Але дзе можна было іх абскардзіць? У нас жа няма незалежных судоў, незалежнай пракуратуры. І сем гадоў я пенсію не афармляў. Штрафы не было з чаго вылічваць. Калі летась у Вільнюсе адбывалася перапахаванне Кастуся Каліноўскага, я выйшаў з бел-чырвона-белым сцягам і плакатам на плошчу, і мне далі штраф – 810 рублёў. Яго дапамаглі сплаціць праваабаронцы.

**– Дык а за што вы жывяце?**

– Вопратку я даўно не купляю. Усё, што вы бачыце на мне, – гэта сэканд-хэнд. Калі маці была жывая, яна прыносіла з сінагогі старое адзенне. Сем гадоў усе, у тым ліку праваахоўнікі, цікавіліся: а за што Хамайда жыве? Ніякіх жа грантаў не атрымліваю… Я раней нікому пра гэта не казаў. Мая маці была вязнем гета. І немцы выплацілі ёй кампенсацыю, як і ўсім вязням, 15.000 марак. За частку тых грошай я і жыў. Потым яны скончыліся. І ўзнікла пагроза, што мяне выкінуць з кватэры. Толькі тады я пайшоў і аформіў пенсію. На сёння яна складае 360 рублёў. Калі не плаціць штрафы, то можна пражыць.

**– Адкуль у вас такое рэдкае і незразумелае для беларускага вуха прозвішча – Хамайда? Набіраеш яго ў інтэрнэт-пошукавіку, і ўсе спасылкі – толькі на вас.**

– Так, Хамайда ў Беларусі адзін. Мой брат тры гады жыў у Ізраілі і аднойчы прыйшоў да доктара, які быў арабам. Ён і патлумачыў брату, што Хамайда ў перакладзе з арабскай мовы азначае "прыемны чалавек". Так што ў маіх жылах цячэ і яўрэйская, і арабская кроў. Мой тата нарадзіўся ў Латвіі. Трое братоў майго дзеда (па бацьку) жылі ў Лондане, і яны яго клікалі да сябе. А ў Беларусі жылі родныя маёй бабулі (па маці), яны клікалі дзеда сюды. Мая маці нарадзілася ў мястэчку Калышкі (цяпер Лёзненскі раён), яе бацька быў равінам у Веліжы. І бабуліны сваякі перамаглі. Калі б дзед з бабай паехалі ў Лондан, то засталіся б жывыя. А так падчас Другой сусветнай вайны амаль усе мае родныя загінулі.

**– Унук равіна, "прыемны чалавек" у арабскім свеце, як вы прыйшлі да беларушчыны?**

– Дзякуючы аднаму беларусу. У 1942 годзе ўсіх яўрэяў з гета пачалі зганяць на плошчу, каб адправіць на знішчэнне. Маці і бабуля вонкава не былі падобныя на яўрэек. І яны пачалі крычаць: "Мы не яўрэі!" І раптам да немца падышоў беларускі настаўнік –Аляксандр Васільевіч Кароткі – і пацвердзіў: "Яны не яўрэі". А ён жа маму вучыў, ведаў яе з дзяцінства! Немец перапытаў: "Ты праўду кажаш?" І настаўнік паўтарыў свае словы. Ён рызыкаваў жыццём! І не толькі сваім – усю сям'ю, калі што, расстралялі б на месцы! Але, як успамінала мама, ёй тады было 17 гадоў, ніводзін мускул не здрыгануўся на твары настаўніка, ён трэці раз паўтарыў: "Яны не яўрэі". І немцы адпусцілі маму і бабулю. Іх уратаваў звычайны беларускі настаўнік і вялікі чалавек – Аляксандр Кароткі. Мама мне гэту гісторыю расказвала дзясяткі разоў. І мяне зацікавіла: што гэта за людзі – беларусы? Так я і прыйшоў у беларускі рух.

**– Я паглядзеў асартымент віцебскага "Белсаюздруку" – сумнае ўражанне. Думаю, сёння, калі зноў ідзе ўціск на незалежны друк, а Мініфарм забараняе інфармацыйныя сайты, віцяблянам вельмі не хапае газеты "Выбар", якую вы выдавалі з 1991-га па 2005 год.**

– Цяпер хоць ёсць інтэрнэт, усе сайты не забароніш. А мы тады ледзь не адзінай крыніцай праўдзівай інфармацыі былі. Помню, выпусцілі першы нумар, а памяшкання няма. Пайшоў я да тагачаснага старшыні Віцебскага аблвыканкама Кулакова: "Уладзімір Панцялеевіч, мы газету пачалі выдаваць, а рэдакцыі няма дзе сядзець". – "А дзе вы цяпер сядзіце?" – "У нас два пакойчыкі на птушыных правах у будынку "Віцебскага рабочага" (былы орган Віцебскага абкама КПБ). Кулакоў і кажа: "Дык і сядзіце там". І шэсць наступных гадоў мы сядзелі, не плацячы ні за святло, ні за ацяпленне! Рабілі газету, кожны нумар высылалі Васілю Быкаву, Рыгору Барадуліну, Нілу Гілевічу, Анатолю Вярцінскаму... Эліта беларуская ведала пра наш "Выбар". І пакуль Кулакоў быў старшынёй, нас ніхто не мог выгнаць. А як толькі ён сышоў – адразу нас пачалі цягаць па судах. Два гады судзіліся. Па судовым рашэнні прыйшлі нас высяляць, а я прыкаваўся ланцугамі да батарэі. Мяне цягнулі, ледзь не зламалі руку. А потым перапілавалі ланцуг і разам з крэслам вынеслі мяне з гэтай рэдакцыі. Во як было.

**– Юрыстам пры любой уладзе знойдзецца праца. Вы ніколі не шкадавалі, што пакінулі юрыспрудэнцыю і пайшлі ў палітыку?**

– Не, шкадавання не было. Адзінае, аб чым шкадую, што не стварыў сям'і. З галавой аддаўся палітыцы. Але мы жывём у такіх умовах, што на сямейнага чалавека лёгка націснуць, як мы тое шмат разоў бачылі пасля выбараў. Але ўсё роўна шкадую.

**– Дык яшчэ не позна, вы такі вядомы ў Віцебску чалавек…**

– Яшчэ магу быць запатрабаваны як кавалер? (*Смяецца.*) Праўда, мяне час ад часу такія думкі яшчэ наведваюць. Сапраўды, калі заўтра ўсё пераменіцца, я пакіну свой "пост" і займуся асабістым жыццём. А пакуль пакінуць яго я не магу, я тут адзін.

**– Што б вы, як палітычны ветэран, параілі моладзі, якая сёння прыходзіць у палітыку, у грамадскае жыццё?**

– Хачу сказаць усім – моладзі ў апазіцыі і сталым ва ўладзе: на хлусні нічога трывалага пабудаваць нельга! Жыць паўпраўдай таксама нельга. Трэба казаць людзям праўду. А праўда вельмі горкая. Пасля 1996 года, калі адбыўся антыканстытуцыйны пераварот і рэферэндум не быў прызнаны міжнароднымі прававымі структурамі, беларуская апазіцыя не павінна была ўдзельнічаць ні ў якіх выбарах, што ладзіліся рэжымам. А яна пачала ўдзельнічаць – у 2001, 2006, 2010, 2015 і 2020 гадах. Цяпер мы фактычна расхлёбваем наступствы.

**– Але зладзіць байкот выбараў у нашых умовах немагчыма. Заўсёды знойдуцца пяць канапацкіх, якія вылучацца як прэтэндэнты. І ўладзе іх удзелу будзе дастаткова.**

– Паўтаруся: наша галоўная задача – вярнуць легітымную Канстытуцыю 1994 года. Каб Рэспубліка Беларусь увайшла ў прававое поле. Нельга ставіць воз паперадзе каня! І новыя выбары (з Лукашэнкам ці без), калі яны пройдуць не па легітымнай Канстытуцыі, будуць незаконныя. Вы паглядзіце, які сёння ўздым! Беларускі народ маўчаў-маўчаў, а тут прачнуўся. І гэтая народная актыўнасць павінна быць скіравана ў прававое рэчышча. Іншага шляху я не бачу.

**Міхась СКОБЛА.**

С МОЕЙ КОЛОКОЛЬНИ



Елена МОЛОЧКО

## Окаянные дни и Купаловский театр

Александр Лукашенко, как сообщила его пресс-служба, высказался о конфликте в Купаловском театре вроде как о решенном уже вопросе: «*Я им сейчас предоставлю (и предоставил уже) полную свободу. Есть коллектив, заявляйте в Америку, что привезете туда спектакль, езжайте туда и ставьте спектакль. Вам заплатят доллар – поделите, заплатят тысячу долларов – тысячу поделите. Не примут вас – ну это же рынок. Съездите в Россию, поставьте спектакль. То есть полная свобода, летайте, ставьте спектакли. Мы не будем в это вмешиваться. И рыночные отношения: сколько заработали, столько и получите*».

Хм, ловко! Ловко и удобно представить драматичнейшую ситуацию гражданского противостояния национального коллектива со столетней историей и власти только лишь в финансовом ключе. Будто бы именно в свободном рынке, в деньгах вся загвоздка, и вот наконец высочайшим указом она теперь разрешена! Но это ведь совершенно не так. И потом – какому именно коллективу собираются предоставить такие необыкновенные «преференции», если все купаловцы, включая художественного руководителя народного артиста Николая Пинигина, несколько дней назад подали заявления об уходе? И возьмут их обратно, только если восстановят на работе незаконно уволенного директора театра П.П.Латушко. Да, их заявления пока не подписаны, в запасе у администрации есть почти две недели, ли по трудовому законодательству она имеет право задерживать человека на рабочем месте. Наверное, купаловцев сейчас по одному будут вызывать в Министерство культуры и выкручивать руки, чтобы они поменяли свое решение. Уверена, что это не поможет. Люди, которые встали на защиту своих базовых конституционных прав на свободные и честные выборы, на защиту своего достоинства и – очень важно! – своего директора Павла Латушко, уж, конечно, не сломаются, не поменяют решение в одночасье в министерском кабинете. Как мудро написала в «Фэйсбуке» народная артистка Республики Беларусь, потомственная купаловка Зоя Белохвостик: «Жизнь длиннее, чем желание выжить».

Да и мог ли Купаловский, наша гордость и любовь, в эти окаянные дни, когда нас оболгали, забрав на выборах голоса, а потом избили, изнасиловали, унизили, чтобы напугать до смерти, поступить иначе? Даже на секунду себе представить этого не могу! Свое гордое имя – Национальный театр имени Янки Купалы – труппа зарабатывала многие десятилетия не только актерскими талантами, не только режиссерскими достижениями, но и твердой позицией, верностью народу Беларуси. Национальный – значит достойный. Национальный – значит нравственный, честный. Национальный – значит справедливый.

Хорошо, Минкульт в истерике призовет в опустевшие гримерки Купаловского актеров из провинции, выпускников театральной академии, даже из России привезет замену (а что, на БТ ведь привезли самолетом из Москвы «профессионалов»). Но станет ли новая труппа купаловской? Можно ли как шторы поменять творческий коллектив? Можно ли добиться этого звания просто за здорово живешь, заняв гримуборную Виктора Манаева, Павла Харланчука, Сергея Чуба, Романа Подоляко, Михаила Зуя? Сняв со стен фойе портреты Тамары Мироновой, Инны Зубковой, Юлии Шпилевской, Валентины Гарцуевой, Евгении Кульбачной, Светланы Аникей и заменив их на новые лица? А как новенькие «наденут» на себя уникальный репертуар, который десять лет создавался Николаем Пинигиным под каждого купаловца отдельно? Ну и напоследок вопрос: неужели к ним, временщикам, пойдет зритель? Ну, неделю-другую, предполагаю, еще можно будет возить туда людей автобусами бесплатно… Но разве это будет Театр? Кому он будет нужен, живой труп? Это ведь будет просто вывеска...

А Купаловский театр тем не менее у Беларуси есть, он не распался, не исчез и, конечно, будет сохранен – где бы, в каких стенах, на каких досках в будущем ни обретался. «Дух дышит, где хочет», – любит повторять строку из Евангелия Николай Пинигин. Дух Купаловского пока ушел всего лишь из здания. Но он сохранен, живой и неугасимый, мы сердцем чувствуем его биение сегодня остро, как никогда.

ВАЧЫМА КАРЫКАТУРЫСТА



